праслухаў так-жа адзін беларускі вершык і прайшоўся па двух клясах. У выніку гэткай „szczegółowej“ візітацыі на другі дзень зьявілася ў „Kur. Wil.“ інтэрвю карэспандэнта гэтай газэты з п. Міністрам, інтэрвю вельмі цікавае і характэрнае. П. Міністр пасьля такой грунтоўнай візітацыі заявіў, што гімназія мае „wiele braków“ і далей, — што ён мусіць рэарганізаваць адну з беларускіх гімназій, каб паставіць яе на адпаведнай вышыні і даць ей правы.

Гэта заява прыпамінае тлумачэньне нядобрай памяці куратара Гонсёроўскага, які каб усправядлівіць сябе, калі гадоў пяць назад зачыняў літоўскую гімназію ў Сьвянцянах, а на месца яе адчыніў польскую, казаў, што літоўская гімназія была рассаднікам „ciemnoty“.

**Базыльянскія муры адбіраюць.** Найвышэйшы Суд у Варшаве 28-га студзеня абвясьціў аканчальны прыгавор у справе Базыльянскіх муроў у Вільні, у якіх месьцяцца беларускія культурныя ўстановы (гімназія, інтэрнат, музэй) і праваслаўная духоўная сэмінарыя. Гэтак, адначасна з ударамі, зробленымі беларускаму руху пад Польшчай апошнімі арыштамі беларускіх паслоў і культурных дзеячоў, беларускім установам пагражае новы ўдар: у судзе ўжо даўно ляжыць справа аб эксмісію (выкіданьне) гэтых установ з іх памяшчэньня. — Хіба-ж усё гэта зышлося не прыпадкова?

**Разгром культурнае ўстановы.** У панядзелак, 7-га лютага, паліцыя зрабіла рад вобыскаў і арыштаў сярод сяброў Навасьвецкага гуртка Т-ва Белар. Школы ў Вільні. Заарыштаваны сэкрэтар гуртка Хвалько. Захоплены пратаколы і ўсе дакумэнты, чым праца гуртка робіцца немагчымай. Узяты так-жа грошы, сабраныя з апошняе вечарыны ў салі Віл. Бел. Гімназіі.

**Да сяброў Цэнтр. Гуртка Т-ва Белар. Школы.** Даводзіцца да ведама ўсіх сяброў Віленскага Цэнтр. Гуртка Т-ва Белар. Школы, якія не заплацілі сяброўскіх складак за 1926 г., што ўзнос складак павінен быць закончаны да 15-га лютага г. г. Хто атрымаў паведамленьне Галоўнай Управы Т-ва Школы і да вызначанага тэрміну не заплаціць складак, будзе выключаны, згодна з § 12 статуту з сяброў Т-ва Школы.

**Галоўная Управа.**

**Папулярныя лекцыі.** У суботу 5-га лютага ў салі Т-ва Бнлар. Школы была прачытана лекцыя грам. Антонам Луцкевічам на тэму: „Уступленьне да беларускае літэратуры“. Лекцыяй гэтай грам. Антон Луцкевіч распачаў цэлы цыкль папулярных лекцыяў з Беларускай літэратуры. Прачытана гэта лекцыя была так жыва, так умела, быў падабраны матар'ял па форме, па зьместу, што публіка, напаўняючая салю, проста заслухоўвалася. Відаць было па твары кожнага слухача, з якой зацікаўленнасьцю лавіў ён кожнае слова лектава.

Калі так будуць чытацца і далейшыя лекцыі іншых лектароў, то трэба быць пэўным, што будуць прыцягіваць яны што-раз шырэйшыя кругі слухачоў.

**Слухач.**

**Чародная лекцыя ў Цэнтральным Гуртку Т-ва Беларускае Школы** (вул. Сьв. Ганны 2) будзе прачытана ў суботу 12-га лютага грам. В. Грышкевічам на тэму: „Праблема свабоды волі“. Пачатак у 7 гадз. увечары.

**Сёлетнія культурныя юбілеі.** Сёлета прыпадаюць тры літэратурныя юбілеі. Мінае 40 гадоў ад урадженьня Цішкі Гартнага, які жыве і творыць у Радавай Беларусі (прадстаўнік пралетарскага кірунку), Алеся Гаруна, памершага ў 1921 годзе (радзіўся 27-га лютага па ст. ст., ці 12-га марца па нов. ст. 1887 году). Ізноў-жа 25-га траўня (а па старому стылю—12-га траўня) прыпадаюць 10-ыя ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча.

Таварыства Беларускае Школы ўжо падрыхтоўваецца да абходу гэтых юбілеяў, найбліжэйшы з іх—Алеся Гаруна.

**Безрабоціца ў Вільні.** Згодна з тыднёвым рапартам, паданым у міністэрства грамадзкай апекі ў Варшаве, лік безработных за час ад 24 студзеня да 29 студзеня г. г. прадстаўляўся так: гутнікаў—21, мэталёўцаў 216, работнікаў будаўляных—603, іншых кваліфікаваных—1010, некваліфікаваных — 1408, работнікаў земляробаў — 273, і інтэлігэнтных працаўнікоў—1360, што разам выносіць—5278 на абшары дзейнасьці віленскага П. У. П. П. (Państwowego Urzędu Pośrednictwa Pracy).

З усяго пададзенага ліку безработных, на карыстаньне падмогай маюць права толькі 1665, астальная ж большасьць безработных застаецца бяз жаднай дапамогі.

У параўнаньні з мінулым тыднем, лік безработных узрос на 43 чалавекі.

**Беластоцкія ткачы.** Як паведамляе „Robotnik“, беластоцкія ткачы распачалі акцыю за падвышку платы на 40 проц., пагражаючы—у разе адмовы — забастоўкай. Беластоцкія ткачы зьвярнуліся да прамысловых работнікаў у іншых местах, прапануючы наладзіць супольнае выступленьне.

**Падзяка.** 20-га студзеня 1927 г. адбылася вечарына Навасьвецкага Гуртка Т-ва Беларускае Школы ў памешканьні Віленскай Бел. Гімназіі, гдзе было згуляна дзьве камэдыі „Модны шляхцюк“ і „Пасланец“. Збор з вечарыны ў суме 139 зл. 85 гр. пайшоў на культурную мэту.

Праўленьне Навасьвецкага Гуртка прыносіць шчырую падзяку тым грамадзянам, якія ўдастоілі сваей прысутнасьцю спэктакль-вечарыну.

Таксама вялікая падзяка артыстам, якія добра ігралі: грам. Анітры, грам. Кляшторны, грам. Шыктараву, грам. А. Тарасаву, грам. П. Тарасаву, грам. З. Майсеюку і рэжыс. А. Мітрафанаву і ўсім сябрам Гуртка за чыннае ўчасьце ў вечарыне.

Чэсьць Вам сябры—барацьбіты з цемрай.

**Афіцыяльны курс грошы на 8 лютага.** Даляр — 8 зл 95 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

8./II. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,96. Зал. р. 4,70 Чырв. 3 дал. 90 цэн.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## Браты! Сяляне і Работнікі места і вёскі!

З цемры бораў-пушчаў і балот Беларусі паўстаюць сьветлыя зоркі культуры — бібліятэчкі, якія ў сучасны момант моцна падтрымліваюць дух адраджэньня беларускіх шэрых масаў. Маладыя бібліятэчкі прынасяць і прынасіцімуць вялізарную карысьць нашым працоўным масам. Ахонаўскі Гурток Т-ва Белар. Школы просіць усіх сьвядомых беларусаў як дзеячоў палітычных, так і культурных, ахвяраваць на новаадкрытую бібліячэку ў Ахонаве якія-колечы кнігі, журналы і др. рэчы—згары пасылаем сваё шчырае беларускае „дзякуй“.

Ахвяры просім прыслаць па адрасу: Zdzięcioł poczta, pow. Nowogródzki, wieś Ochowowo, Jan Bośko.

## Змаганьне за родную школу.

(Пружанскі пав.).

29-га сьнежня м. г. я, паўнамоцнік жыхароў в. Аранчыны, Ліпоўскае гм., Пружанскага пав., Патапчук Язэп насіў дэкларацыі на родную беларускую школу ў ліку 24 шт. на 34 дзяцей да п. Школьнага Інспэктара ў м. Пружаны. Не застаўшы п. Інспэктара дома, я мусіў прастаяць цэлы дзень пад ганкам канцэлярыі п. Інспэктара, а вечарам, не залагодзіўшы справы, змушаны быў ісьці дахаты аш за 12 кілямэтраў. Тое самае было і 30-га сьнежня. 31-га сьнежня, сабраўшы апошнія сілы зноў, я пашоў да п. Інспэктара. Але і ў гэты, апошні дзень складаньня дэкларацыяў на беларускую школу я нічога не дабіўся. Ад 9 гадз. канцэлярыя была зачынена, а на пытаньне мае, гдзе п. Інспэктар—нейкі панок некалькі разоў адказываў мне, што няма яго дома.

І так, нічога не дабіўшыся, я змушаны быў паслаць дэкларацыі ў Варшаву на імя Пасольскага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Пры ўсіх маіх мучэньнях пад ганкам пана Інспэктара былі сьведкамі Сьцяпан Каляда і М. Чэрнякевіч з в. Сухаволя, Шэрашэўскае гм., Пружанскага пав., якія па тэйжа прычыне здаць сваіх дэкларацыяў не маглі і таксама іх паслалі ў Варшаву.

Бачыце, грамадзяне, як мучаць нас інспэктары, не адчыняючы сваіх канцэлярыяў аж па тры дні, абы толькі ня прыняць дэкларацыяў на беларускую школу! Ходзім мы, ходзім па 12 кілямэтраў і больш, па тры дні стаім пад ганкамі паноў Інспэктароў ад рана да вечара, а беларускае школы як няма так няма.

*Паўнамоцнік жыхароў в. Аранчыны Ліпоўскае гм., Пружанскага пав., Патапчук Язэп.*

## Вёска ня спіць.

(Чамяры, Чамерскай гм., Слонімскага пав.).

Шмат ужо пісалася ў свой час у газэтах аб тым, што беларуская вёска прабуджаецца ад свайго векавога сну і пачынае імкнуцца да культурнай праны.

Дык вось і мы, чамераўцы, хочам напісаць пра тое, як у нас прайшлі каляды і пажадаем усім таго самага.

3.I 1927 г. падалі мы слонімскаму старасьце паведамленьне аб тым, што хочам 8.I 1927 г. на другі дзень праваслаўных каляд зрабіць вечарыну, дзе будуць згуляны наступныя п'есы: „У кавалёвай хаце“, „Модны шляхцюк“ і „Стараста“, пры чым, разам з паведамленьнем паслалі і памянёныя п'ескі.

Стараста абяцаў прыслаць дазвол, або запярэчаньне праз пошту.

Нашы маладыя артысты прыгатавалі п'есы надта добра і, ня гледзячы на тое, што ад старасты не атрымалі ніякага адказу, у назначаны тэрмін збудавалі сцэну ў сялянскай хаце і зрабілі, што трэба была.

Усё прайшло так жыва і весела, што ляпей ня трэба

І малыя і старыя сабраліся ня толькі з Чамяроў, але і з бліжэйшых суседніх вёсак. Бяда толькі тая, што за малое было памешканьне і дзеля гэтага шмат каму прышлося стаяць на панадворку, ня бачучы, што робіцца ў хаце.

Спачатку паставілі: „У кавалёвай хаце“ і, хаця нашы маладыя артысты першы раз прыймалі ўдзел у сцэнічных гульнях, аднакжа згуляна было надта добра і народ страшна зацікаўлены быў гэтай п'есай.

Пасьля — „Модны шляхцюк“ таксама прайшоў ня менш цікава, як і „У кавалёвай хаце“.

Апошняй была згуляна „Стараста“, якая дала ўсім столькі сьмеху, што трудна і апісаць.

Адным словам, п'есы былі пастаўлены надта добра.

Калі скончыўся спэктакль, хлапцы і дзяўчаты дэклямавалі вершы, якія ўзбудзілі публіку ад сьмеху да такога бодрага настрою, што па сканчэньні ўсяго з грудзей кожнага вырваліся зыкі беларускай марсэльезы: „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі“. Пасьля запяялі яшчэ некалькі беларускіх песень, сказалі маленькую прамову адносна народнага дому і гэтым усё закончылася.

Каля дзесятай гадзіны ўночы ўсе разышліся дамоў у бодрым і вясёлым настрою і з лепшай надзеяй у будучыну, а моладзь, наняўшы музыканта, зрабіла танцы да гадзіны другой.

Дык вось, як правялі нашы маладыя каляды, — замест таго, каб напіцца гарэлкі і валяцца дзе-небудзь у сьнягу, або гуляць у карты.

Чэсьць і слава вам, чамяроўскія хлапцы і дзяўчаты, барацьбітам з цемнатою; Вы, як маладыя арляняты, на вас уся надзея вашых бацькоў, замучаных панскім бізуном, на вас надзея ўсяго працоўнага люду нашай бацькаўшчыны — Беларусі!

Засявайце навуку ў народзе, не марнуйце дарма часу!

Толькі тады мы зможам збавіцца ад уціску паноў, калі будзем мець сваю культуру!

Давайце прыклады другім вёскам! Няхай жывуць нашы артысты!

**Ям.**

## Нам пішуць з вескі што:

× Поп Рудніцкае парахвіі, Пружанскага пав., так сквапны на грошы, што адабраў царкоўную зямлю ў сялян, якую яны арэндавалі да гэтага часу і здаў спэкулянту-жыду за 90 даляраў. Скора пасьля гэтага тойжа поп зьвярнуўся да сялян з просьбай паправіць клебанію, на што сяляне адказалі яму, каб зьвярнуўся з гэтай просьбай да таго жыда, якому аддаў зямлю ў арэнду.

Наагул-жа гэты поп дзярэ з сялян, як толькі можа: за шлюб бярэ з бяднейшага — 40 зл., а з багацейшага—50 зл., за пахарон—30 зл., а за хрэсьбіны—6 зл. Вось якога духоўнага бацьку маем.

× Да грамадзяніна вёскі Красьне, Пружанскага пав., Нічыпара Крысталчука пршоў 10-га сьнежня м. г. паліцыянт Вялікасельскага пастарунку Курджын і спытаў, ці ёсьць у вёсцы гурткі. Той думаў, думаў, а пасьля й кажа: „Не, паночку, няма ў нас Грудкоўскіх. Во ў Ліхасельцах то ёсьць, а ў нас няма“. З тым і пашоў паліцыянт сабе далей.

× Вучыцелька польскай школы ў в. Нагорных, Баранавіцкага пав., вучыць нашых дзяцей толькі цацкі рабіць: конікі, крэслы і іншыя глупствы, а аб навуцы то няма і паміну. Ды і наагул у школе ніякага парадку няма.

× Слуга абшарніка Трэнбіцкага 28-га сьнежня м. г. забіў з рэвальвэра грам. Пётру Гумэна з в. Ліпова, Ліпоўскае гм., Пружанскага пав., за тое, што Гумэн на полі Трэнбіцкага высек 2 аглоблі. Вось дык шчыры панскі прыслужнік.

× Паўла Лупінка, з Кураполя, Пастаўскае гм., хоць і цёмны, як бутэлька, служыць шпіком і даносіць усялякія брэдні паліцыі, што толькі яму ўздумаецца. Так прынёс ён іржавую вінтоўку адкульсьці і ўторкнуў у страху ў хату грам. А. Хаткевіча, а пасьля паклікаў паліцыянтаў і сказаў ім, што ў грам. Хаткевіча схавана пад страхой вінтоўка. Іншыя грамадзяне відзелі, як Лупінка торкаў пад страху вінтоўку і на судзе сказалі гэта і зацьвердзілі прысягай. Ня гледзячы на гэта, суд усё-ж засудзіў грам. Хаткевіча.

× У в. Паўловічы, Межырэцкае гм., Ваўкавыскага пав., адзін з сялян запрапанаваў солтысу Юльяну Пашыку выпаўніць дэкларацыю на беларускую школу і пацьвердзіць у войта. Але ўспомнены солтыс адмовіўся ад падачы дэкларацыі на родную беларускую школу, кажучы, што баіцца, каб не разгнявіць гэтым войта і камэнданта паліцыі.

Ганьба табе, пане солтысу. Гэта ж ты сваей баязьняй хочаш пакінуць дзіця сваё сьляпым!

× Другі селянін тэй-жа вёскі Янка Брыш, баючыся, каб войт не назваў яго бальшавіком не панёс сам у гміну заверыць школьную дэкларацыю. Да другіх-жа сялян казаў так: „Калі будзе ў іншых вёсках беларуская школа — дык і ў нас будзе. А за іншымі справамі дык лезе перш, не баіцца, што войт бальшавіком назаве.

× У польскай школе ў в. Славатычах, Межырэцкае гм., Ваўкавыскага пав., вучыцелька Ганна Мардзіжоўна так добра вучыць беларускіх дзетак, што праз тры-чатыры гады навукі яны ведаюць усе літары, ды з горам папалам расьпісываюцца, а лічыць амаль што зусім ня ўмеюць. За тое часта вучыцелька гэта ладзіць вечарынкі з войтам, камэндантамі — ды асаднікамі, пасьля якіх баліць ей галава—дык таму і вучыць ня можа. А як вышла вучыцелька замуж за абшарніка Крагельскага — яшчэ паправілася, пакуль прыдзе, пакуль сагрэецца, дык і вучыць няма калі.

× Старшы лясьнік Какошчынскага лясьніцтва не дае жыць сялянам з в. Какошчыцы, пішучы пратаколы на быдла, коні, ня глёдзячы, што тыя па лесе і не хадзілі. Так за лета на сялян в. Какошчыцы напісаў пратаколаў на 800 злотых. Летам адбірае ягады, грыбы і б'е жбанкі, а зімой зусім забараняе праз лес хадзіць. Калі спаткае каго ў лесе, ўпрэ дубальтоўку ў грудзі і так прымушае варочацца назад.

## Адказы Адміністрацыі.

**Бусьцы Рыгору.** Газэта Вам ад 3/XII 1926 г. высылаецца акуратна.—**Грэбяню Мікалаю.** Газэта Вам ад 1/XII 1926 г. высылаецца акуратна.—**Стрыхару Юльяну.** Ад Вас да Н. Г. належыцца—3 зл.—**Беламу Янку.** Маеце яшчэ доўгу 5 зл. 50 гр.—**Сьцяпану Палейку.** У Вас аплачана па 10/III с. г., 3 зл. 50 грошы ў кнігарню перадалі.—**Грыцуку Сьцяпану.** Газэта Вам высылаецца. Грошы атрымалі, дзякуем. Заадрэсоўваць Вамы газэта павінна Ваша пошта, да каторай зьвярніцеся ў гэтай справе.—**Езапчуку С.** У Вас аплачана па 15/I 1927 г. — **Сьвірыду Антону.** Маеце яшчэ доўгу—3 зл. 50 гр. — **Хадароніку Мікалаю.** Газэта Вам высылаецца ад 10/XI 26 г.

## Усячына.

### Як адратавалі дакумэнты ў справе забойства Мэттэотті.

Ведама, што фашыстаўскі „суд“ над забойцамі сацыялістычнага пасла Маттэотті абяліў шмат каго з запраўдных спраўцаў замаху. Спаміж іх, зразумела-ж, быў перадусім цалком абелены галоўны забойца, — сам „Павадыр“ Мусоліні, па загаду якога, як сьцверджана было прэсай, быў забіты пасол.

Дык ясна-ж, што суд зрабіў усё, каб схаваць усе канцы ў воду пасьля—„судовай расправы“... з ведамымі ўсім фактамі: зьніштожыў усе дакумэнты, якія даводзілі ўчасьце ў зладзействе фашыстаўскіх міністраў і самога Мусоліні.

Але ворагі фашызму таксама — ня спалі. Ведамы італьянскі гісторык Сальвэміні, атрымаўшы ў сваім часе копіі дакумэнтаў, здолеў выслаць іх у Лёндан, дзе ён сам цяпер працуе над кніжкай аб гэтым працэсе, якая выйдзе адразу ў 4 х мовах. Другая копія ўсіх дакумэнтаў знаходзіцца ў руках парыжскай „Камісіі для дасьледаў аб праступленьнях Мусоліні“... Трэцюю копію мае рэдакцыя органу італьянскіх эмігрантаў у Парыжу...

У Італіі фашыстаўская дэфэнзыва пільна сачыла за тымі, хто выдаў дакумэнты: арыштавана было шмат людзей па падазрэньню, дый шмат іх пакараны за—ну ведама-ж, — „за змову проці дзяржаўнай бясьпечнасьці“, ды за „шпіёнства“.



Рэдактар-Выдавец: Альберт Эйсак.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.